Год IV. Красавік. № 4 (39)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі.“
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. №6

ЗЬМЕСТ № 4.



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

### Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | I, i — I, i. | S, s — C, c |
| B, b — Б, б. | J, j — Й, й. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| C, c — Ц, ц. | K, k — K, к | Š, š — Ш, ш. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | L, l — ЛЬ, ль. | T, t — T, т. |
| Č, č — Ч, ч. | Ł, ł — Л, л. | U, u — У у. |
| D, d, — Д, д. | M, m — M, м. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| E, e — Э, э. | N, n — H, н. | V, v — B, в. |
| F, f — Ф, ф. | Ń, ń — НЬ, нь. | Y, y — Ы, ы. |
| G, g — Г, г. | O, o — O, o. | Z, z — З, з. |
| H, h — Г, г. | P, p — П, п. | Ž, ž — Ж, ж. |
| Ch, ch — X, x. | R, r — P, p. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год IV. | Вільня, Красавік 1932 г. | № 4 (39) |
|---|---|---|

## Пасьля забароны—што рабіць?

Як мы ўжо паведамлялі ў прошлым (3) нумары нашай часопісі, міністэрства Ўнутраных спраў, да якога адклікаліся закладчыкі Т-ва беларускае моладзі „Будучыня“ ад забараняючай пастановы віленскага ваяводзства, прыслала такі самы адказ як і ваяводзтва: арганізаваць Т-ва „Будучыня“ ня можна. Як ваяводзкі ўрад, так і міністэрскі не падаюць нават ніякіх прычын, дзеля якіх адмовіліся залегалізаваць наша Т-ва і зацьвердзіць статут.

Трэба думаць, што прычыны незацьверджаньня не ляжаць у статуце, бо віленскі ваяводзкі ўрад, першы раз праглядаючы гэты статут, заўважыў тамака пэўныя недахопы з боку праўнага; тады закладчыкі Т-ва і рэдактары статуту азначаныя ваяводзкім урадам недахопы выправілі і падалі другі раз на зацьверджаньне. На гэты раз прыйшоў адказ ясны: ваяводзкі ўрад адмаўляецца зацьвердзіць статут і дае магчымасьць адклікацца да міністэрства. Закладчыкі адклікаліся і ня гледзячы на тое, што статут быў напісаны паводле ўсіх вымаганьняў права, міністэрства такжа дало адмоўны адказ.

Не магло быць прычыны незацьверджаньня статуту ня толькі ў форме і зьмесьце яго, але так-жа ў мэтах Т-ва. Бо мэты праектаванага Т-ва былі гэтакія: а) самаасьвета на грунце народным, грамадзкім, культурным і прафэсыянальным; b) шырэньне асьветы і навукі пасярод маладзейшых кругоў грамадзянства; c) буджэньне зразуменьня і любові да спраў культуры і народнага мастацтва; d) практыкаваньне і пашыраньне спорту, а так-жа фізычнага ўзгадаваньня ўва ўсялякай форме; е) арганізаваньне самапомачы і таварыскага жыцьця (параграф 2-гі статуту).

Як бачым, мэты праектаванага Т-ва вельмі высокія і мелі на воку разьвіцьцё як духовае, так і фізычнае беларускае моладзі.

Гэтаксама ня можна знайсьці нічога заганнага і ў спосабах, вядучых да гэтых мэт. Паміж спосабамі былі вылічаны агульна прынятыя ўва ўсіх іншых таварыствах, як: сабраньні, лекцыі, вечарыны, школы, курсы, бібліятэкі, чы-

тальні, бурсы для школьнай моладзі, самапомач, выдавецтва газэт і папулярных кніжак і г. д. У сваім рэкурсе да міністэрства закладчыкі паказвалі на поўную апалітычнасьць арганізацыі, на яе грамадзка-культурны характар, на вялікую несправядлівасьць з боку віленскіх ваяводзкіх уладаў, забараніўшых арганізавацца беларускай моладзі пад сьцягам Т-ва „Будучыня"; паказвалі і на тое, што польская або лепш кажучы, спольшчаная моладзь мае магчымасьць працы ў розных „Stowarzyszeniach" і „Związkach", што гэтакая няроўнасьць і несправядлівасьць у адносінах да беларускай моладзі вельмі крыўдна — аднак ня гледзячы на гэтыя ўсе доказы закладчыкі атрымалі адмоўны адказ і нават не даведаліся аб прычынах незацьверджаньня.

Дык справядліва піша „Б. Крыніца" (№ 14 с.г.) у гэтай справе:

„Выходзіць так, што паводле пісаных польскіх законаў, беларусы пад Польшчай маюць усе магчымасьці нацыянальнага разьвіцьця, а ў сапраўднасьці — нават найвышэйшыя ўлады не даюць дазволу на легальныя, культурна-прасьветныя і выхаваўчыя арганізацыі беларускай моладзі. І гэта ў той час, калі вёскі нашыя залiваюцца рознымі польскімі „коламі", „зьвёнзкамі", „стшэльцамі" і ім падобнымі „лавушкамі", якія закладаюцца для несьвядомай беларускай моладзі, а беларусам вечна закідаецца „брак культуры і арганізацыі". Тым часам „культуры" гэтай неадкуль здабыць, бо для дзяцей беларускіх не даецца беларускай школы, а бел. моладзі — не даецца магчымасьці нават заснаваць сваю арганізацыю.

„Мэта польскіх урадавых кругоў пры гэтым цалком зразумелая... Беларуская моладзь хіба-ж ня дасца так лёгка зьнеахвоціцца стаўлянымі ёй труднасьцямі і справу свае арганізацыі пастараецца павесьці далей. Да гэтага мае ня толькі права, але і абавязак".

Так, беларуская моладзь знае, што да арганізацыі і асьветы мае ня толькі права, але і абавязак. Але што рабіць, каб споўніць гэты абавязак у цяперашніх варунках.

1) Перадусім групавацца каля адзінай у Зах. Беларусі часопісі для бел. маладзяжы „Шлях Моладзі", выпісваць яе, пашыраць і супрацоўнічаць у ёй. Рэдакцыйная калегія з свайго боку будзе старацца, каб „Шлях Моладзі" падаваў усе патрабнейшыя для беларускай моладзі весткі як з галіны навукі, так і грамадзкага жыцьця. „Шлях Моладзі" павінен замяніць лекцыі, дыскусіі і гутаркі, павінен адбіваць жыцьцё моладзі ў яе імкненьнях, працы і творчасьці. Дык першым чынам цяпер трэба йшчэ мацней згуртавацца каля „Шляху Моладзі" і паддзержываць з ім заўсёдныя зносіны, памагчы яму і матэр'яльна і маральна.

2) Другім пунктам нашай працы будзе закладаць гурт-

кі „Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры“. Затрымаліся мы на гэтай арганізацыі дзеля таго, што яна найменш з усіх іншых беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў заавансаваўшыся ў палітыцы, не дзяржыцца ні саветафільскай ні полёнофільскай палітычнай ар'ентацыі, а стаіць на моцным ідэйным беларускім грунце, апіраючыся на сілы толькі свайго беларускага народу. Дык закладаньне гурткоў Б. Інстытуту Г. і К. і праца ў іх можа вызраўняць хоць часткова тыя шкоды, якія прынясла нам забарона польскіх уладаў мець сваё Т-ва беларускай моладзі. У Інстытуце мы, беларуская моладзь, будзем працаваць не адны, але з старэйшым грамадзянствам, а гэта дасьць нам магчымасьць лепш зазнаёміцца з грамадзкай, культурна-прасьветнай працай.

Дык да працы, беларуская моладзь! Гледзячы на перашкоды, не апушчай рук і ня падай духам! Няхай перашкоды, якія спатыкаеш на дарозе, ня ломяць Цябе, але гартуюць! Ідзі заўсёды наперад, працуй для свайго гаротнага народу і сваей бяздольнай краіны, ведаючы, што перад Табою Будучыня!

---

## Прыгатаваньне да вакацыяў.

*(Да беларускай школьнай моладзі).*

Не аднаму можа дзіўным здасца сам загаловак гэтага як-ні як насьпяваючага пытаньня: як — скажа нехта, — яшчэ прыгатоўвацца да вакацый? То-ж вакацыі, гэта адпачынак, а адпачываць ня штука патрапіць і без вялікага прыгатаваньня... Згода. Але крышку цярплівасьці і ахвоты да ўзаемнага зразуменьня, а ўсё будзе добра.

Па 10-ох месяцах працы над кніжкай, кожны вучань-вучаніца мае права на заслужаны адпачынак; тымбольш той, хто кончыў школьны год бяз ніякіх „хвастоў“. Гэтага ніхто ня будзе адмаўляць, гэта ёсьць правам кожнага школяра.

Але побач з правам ідзе і абавязак. Гэтак ёсьць усюды, а ў беларусаў гэтак ёсьць у асаблівай меры. У беларусаў блізу 90 прац. вучнёўскай моладзі даходзіць да лаўкі сярэдняй і тымбольш вышэйшай школы, дзякуючы „добрым людзям“. Беларускае сьведамае грамадзянства, як можа і ўмее, стараецца загусьціць рады свае вучнёўскае моладзі і аблегчыць цяжкі ейны быт. Усё гэта робіцца з тэй думкай, каб пабольшыць лік сьвядомых працаўнікоў і нясьці тады ў народ наш зразуменьне праўдаў навукі і патрэбы адраджэньня. Ня бачыць, не разумець гэтага моладзь ня можа, а бачачы і разумеючы мусіць прызадумацца чым-бы

і яна магла ўжо памагчы старэйшаму пакаленьню ў ягонай працы над усьведамленьнем і прасьветай нашай перадусім беларускай вёскі. Гэта ёсьць абавязкам школьнай беларускай моладзі і ўхіляцца ад яго ня вольна.

Як-жа гэту працу конкрэтна ў жыцьці праводзіць? Інакш будзе працаваць вучань-вучаніца ніжэйшых клясаў сярэдніх школ, інакш — з клясаў вышэйшых, інакш — вучні (студэнты) вышэйшых школ і яшчэ йнакш — людзі з даконченай адукацыяй у тым ці іншым кірунку: для ўсіх іх аднак засада адна — не прапусьціць дарма ніводнай магчымасьці паказаць на нейкую беларускую асаблівасьць і то паказаць добра, умела. Бо вылезьці з нечым і не даказаць — лепш сусём ня вылазіць. А добра і ўмела даказаць нешта патрапіць той, хто да гэтага перш прыгатаваўся. Знача, „прыгатаваньне да вакацыяў" усё-ж патрэбнае і на гэта трэба выкарыстаць астатак школьнага году.

Як і што трэба прыгатоўваць?

Гэта залежа, хто да чаго мае ўпадабаньне, а тымбольш — здольнасьць. Усякі вучань, з беларускае асабліва школы, выносіць у памяці некалькі вершаў; шмат хто навучыўся ўжо, ці яшчэ можа навучыцца некалькі беларускіх песьняў, асабліва на два і болей галасоў: няхай жа гэта задэклямуе, засьпявае нейдзе на тарыскіх зборках, на забавах, ды няхай падахвоце да гэтага сваіх таварышаў і таварышак, каб яны гэтыя вершы песьні, скокі (наша слаўная **лявоніха**!) ад нас навучыліся і далей таксама нясьлі і распаўсюджывалі. Гэта сярод моладзі падчас забавы.

Але-ж спатыкаемся на вёсцы ня толькі з моладзьдзю, а і моладзь ня толькі бавіцца і сьмяяцца хоча: яна рада таксама нешта і паважнейшае пачуць, нечага навучыцца. Ня кожны можа такую ахвоту моладзі і старшых сваімі сіламі здаволіць. Затое і вучань ніжэйшых ужо клясаў можа загадзя падумаць, што мог-бы ён сваім вяскоўцам цікавага і карыснага **аб Беларусі** прачытаць: з кніжкі, з газэты. Трэба толькі так падабраць матэрыял, каб ён для слухачоў быў сапраўды цікавым і заахвоціў да *супольнага чытаньня* і на далей, калі сам вучань паедзе ўзноў у места, у школу. Калі-б каму ўдалося знайсьці свайго заступніка, які вёў-бы стала такія супольныя чытаньні для сабраных напр. што нядзелю, па 2—3 гадзіны, той зрабіў-бы вялікую прыслугу і сваім равесьнікам і суседзям і супольнай усім нам справе адраджэньня Беларускага народу.

Хто пачуваецца на сілах выступіць на вёсцы з сваім уласным нейкім рэфэратам, няхай прыгатуецца да яго ўжо цяпер: цяпер яму даступныя кніжкі, даступная рада вучыцеля, старшага калегі, ці нейкай арганізацыі, напр. Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры.—Гэта, што мае нясьці беларускі вучань на вёску. Але шмат можна прынясьці і з вёскі, трэ-

ба толькі, як кажуць, мец там на шмат што адчыненыя вочы і вушы. На вёсцы можна ня толькі вучыць некага, але і самому вучыцца. Перадусім трэба вучыцца занікаючых, а гэтак прыгожых нашых беларускіх народных песьняў і запісываць іх. Запісываць таксама трэба розныя нашы народныя звычаі, напр. апісаць ад пачатку да канца вясельле, або зажынкі, дажынкі, талаку і г. п.

Важным таксама ёсьць вучыцца ўжо з маладых гадоў падглядаць недастаткі нашай вёскі і разважаць над спосабамі змаганьня з імі, а перадусім натаваць усе там заўважаныя беды і патрэбы і перадаваць іх, як і ўсё іншае заўважанае і сабранае на нашай вёсцы, да ведама беларускіх газэт ці арганізацый.

Усіх магчымасьцяў працы трудна за раз спамятаць і зрахаваць. Але гэтых пару тут вылічаных хай возьме наша беларуская школьная моладзь сабе пад развагу і да чаго хто здольны і ахвотны — хай старанна ўжо прыгатоўвуецца.

*Ю. Ш.*

---

# Крыху з нашай гісторыі.

### Польшч і унія з Літоўска-Беларускай дзяржавай.

Прошлы раз мы разглядалі прычыны, якія прымусілі Літоўска-Беларускую дзяржаву (а лепш кажучы Ягайлу) да уніі з Польшчай. Гэтымі прычынамі былі: 1) бязупынны крызыс вялікакнязеўскай улады і 2) націск нямецкіх крыжаносцаў. Цяпер разгледзім, што скланіла Польшч да шуканьня новых дарог на Ўсходзе і да уніі яе з Літвою.

Польшч да 14 стагодзьдзя імкнулася на захад у землі Лужыцкіх сэрбаў, памаранаў і люцічаў. Аднак сустрэчны германскі націск ад часу ўтварэньня Брандэнбурскай Мархіі, пачынае адсовываць Польшч штораз болей на ўсход: пад напорам немцаў, а так-жа літоўскіх прусаў, якім адна Польшч не магла даць рады і паклікала крыжаносцаў, Польшч адварачваецца ад захаду, куды паказваў ей дарогу йшчэ Балеслаў Храбры і Балеслаў Крывавусны, а зварочваецца на ўсход. Цікава будзе адзначыць той факт, што разам з германцамі адціскалі Польшч ад заходняга кірунку так-жа славянскія плямёны: памаране і люцічы. Відаць і тагды польскія палітыкі не маглі знайсьці з імі спосабу паразуменьня, таксама як цяпер ня могуць знайсьці гэтакага паразуменьня з усходнімі славянскімі плямёнамі.

Вось-жа пад націскам германцаў, а так-жа сваіх „братніх“ славянскіх плямёнаў, якім, відаць, болей дакучала

Польшч, як германцы, Польшч ад палавіны 14 ст. пачынае свой наступ на ўсход. І так: у 1340 годзе займае Чарвенную Русь (сяньняшнюю Усход. Галіччыну), а ў 1385 г. заключае унію з Літоўска-беларускай дзяржавай.

Па сьмерці караля Казімера В., апошняга з дынастыі Пястаў, на польскім троне засеў Людвік, Вугорскі (Вэнгерскі). Па ягонай сьмерці (1382) асталіся тры дачкі: Кацярына, Марыя і Ядвіга. Польскія паны хацелі спачатку пасадзіць на польскім троне сярэднюю дачку Людвіка Марыю, але калі тая вышла замуж за Жыгімонта Люксэмбурскага, прымушаны былі згадзіцца на малодшую Ядвігу. Маладзенькая, бо маючая ўсяго 13 гадоў Ядвіга, будучы нават ня полькай а вэнгеркай, прыехала ў Польшч і 15 кастрычніка 1384 году была каранавана на каралеву польскую.

Цяпер для паноў польскіх усплыла новая задача: выбраць для яе мужа. Ідучы за новым (усходнім) кірункам польскай палітыкі, паны зьвярнулі ўвагу на Літву і на яе вялікага князя, каторы тагды быў у трудным вонкавым (крыжаносцы) і нутраным (Вітаўт) палажэньні — на Ягайлу.

Ягайла, згаварыўшыся перад тым з польскімі панамі, шле сватоў да Ядвігі, якая спачатку і слухаць аб выхадзе замуж за Ягайла ня хоча. Яна ўжо была заручана з прынцам Вільгельмам, каторага шчыра любіла і каторы нават зьявіўся ў Кракаў, але прымушаны быў адтуль уцякаць пад націскам і грозьбамі польскіх паноў. Ядвіга, ня маючы нідзе апоры, мусіла ўрэшце паддацца і згадзілася выйсьці замуж за нялюбага Ягайла. 15 лютага 1386 г. адбыўся хрост Ягайлы, а 18 лютага шлюб Ядвігі з Ягайлам, які яшчэ перад гэтым (2.II. 1386) быў выбраны ў Любліне каралём польскім.

Такім парадкам пэрсональная унія і разам з гэтым інкорпорацыя Літвы ў Польшч сталася фактам. Ягайла ў сваім трудным палажэньні знайшоў для сябе апору ў Польшчы, а Польшч знайшла такую-ж апору ў Літ.-Беларускай дзяржаве.

Паводле ўмовы, зробленай Ягайлам з польскімі панамі, у Літ.-Беларускай дзяржаве не павінна было быць аддзельнага вялікага князя. Так яно і было зараз на пачатку пасьля падпісаньня уніі. Ягайла выехаў у Польшч і адтуль правіў вялікім княствам, радзячыся ўва ўсіх важнейшых справах з польскімі панамі.

Але скора падзеі разьвіліся так, што Ягайла быў прымушаны назначыць у вялікім княстве аддзельнага ўладара ў асобе Вітаўта. Як да гэтага дайшло і якія прычыны прымусілі Ягайлу пайсьці на такія ўступкі і гэтым скасаваць інкорпорацыю (wcielenie) Літвы ў Польшч?

Аб гэтым цяпер пагаворым.

Ягайла відзеў нездаваленьне літоўска-беларускага баярства і князёў з уніі і дзеля гэтага стараўся ўсімі споса-

бамі гэтае нездаваленьне ўціхамірыць. Ён павялічыў землі брата Скіргайла, свайго галоўнага памочніка ў Літ.-Бел. дзяржаве, якому аддаў княства Полацкае, адабранае ад брата Андрэя (Полацак быў проціў уніі з Польшчай), падараваў Менск і яшчэ пару меншых княстваў беларускіх. Разам з гэтым Ягайла абяцаўся слухаць ува ўсім Скіргайлы, ставіць яго вышэй за ўсіх братоў і бараніць яго ад усялякай напасьці

Апроч гэтага Ягайла стараўся абдарыць рознымі прывілеямі і палёгкамі літоўска-беларускіх баяр. І так: ён у 1387 годзе абдзяліў усіх баяр, прыняўшых каталіцтва, такімі самымі правамі і прывілеямі, якія мела польская шляхта. Аднак баярства не магло забыцца аб даўнейшай самастойнасьці В. Княства, тымболей, што бачыла, як яно адыходзіць на другі плян, а на першы плян у кіраваньні дзяржавай высоўваюцца чужынцы — палякі. Літоўскія, а асабліва беларускія баяры зразумелі, што унія з Польшчай не прынясла ім братняга саюзу (як гэта цяпер гавораць: „wolni z wolnymi, równi z równymi“), а прынясла няволю і падданства. Яны пабачылі, што цяпер нават адсунуты ад свайго даўнейшага ўладара, караля польскага і разам з гэтым адсуненьнем страцілі ўплывы і матэр'яльныя карысьці. Усё гэта выклікала як у баярстве так і ў князёх вялікае нездаваленьне, з якога пасьпяшыў скарыстаць Вітаўт, сын вялікага Кейстута. **Ваг.**

**Папраўка.** У прошлым нумары нашай часопісі ў артыкуле „Аб прычынах уніі Бел.-Літоўскай дзяржавы з Польшчай“ закралася памылка: у 18 радку (лічачы зьнізу) на стр. 4, дзе надрукавана: „пры Альгердзе Вітаўце“, а трэба „пры Альгердзе і К е й с т у ц е“.

---

# Ab kulturnych formach žyćcia. (4)

*Padavańnie ruki pry pryvitańni* nastupaje pry sustrečy dvuch znajomych asob u biespasiarednaj bliskaści. Pryniata, što małodšaja asoba čakaje pakul joj nie padaść ruki asoba starejšaja. Taksama mužčyna čakaje. pakul jamu nie padaść ruki žančyna. Padavańniem ruki možna, jak kažuć, vyrazić cełuju gamu svaich pačućciaŭ. Treba adnak być z hetym vielmi aściarožnym. Vielmi niepryzvaita padavanuju ruku ściskać da bolu, abo trymać jaje vielmi doŭha, z druhoj starany strašna prykraje ŭražańnie robić padanaja ruka „biaz žyćcia,“ smaŭžavataja, padobnaja da... niažyvoha miantuza. Niaprystojnym taksama jość padavańnie tolki palcaŭ ruki.

Ruku treba padavać cełym dałaniom z adnačasnym *miernym* pažaćciem. — Na daŭžejšaje ci karaciejšaje tarmašeńnie ruki mohuć pazvolić tolki asoby bližej sabie znajomyja.

Pry padavańni ruki nielha hladzieć u ziamlu, ci ŭbok, a *treba ƕladzieć u vočy*. *Žančyna* pry padavańni ruki *nie ŭstaje*, kali prad tym siadzieła, mužčyna-ž musić pry hetym zaŭsiody ŭstać. Tut-ža treba zaznačyć nieułaścivaść žartam zvanaha „biełaruskaha zvyčaju“, kali asoba ŭvajšoŭšaja ŭ bolšy kruh tavarystva vitaje ŭsich paparadku: i tut vymahaje zvyčaj pryvitacca spačatku z prysutnymi žančynami — i kali-b jany siadzieli ci stajali ŭ pieramiežku z mužčynami,—a paśla tolki pryvitacca z mužčynami. — Padavać ruku ŭ rukavicy možna tolki na vulicy.

Dražlivaj i niavyrašanaj jość sprava *całavańnia ruki* pry spatkańni ci pry raźvitańni. Splatajecca tut vielmi šmat mamentaŭ i časta dachodzicca da hatovych absurdaŭ. Vyrašyć heta pytańnie možna budzie tolki prykładam kulturnych krajoŭ, dzie centralnyja žanočyja arhanizacyi — a žančyny tut majuć słova pieradusim! — pavynosili pastanovy, jakimi vielmi ahraničvajecca, a to i susiom kasujecca zvyčaj całavańnia ruki. — Dyk rašučaje słova tut majuć našy žanki. I spadziejmasia, što prava heta jany vykarystajuć dla ahulnaha, a tymsamym i dla svajho dabra. Bo apračа starany hygijeničnaj, trudna pradstavić horšuju sytuacyju dla žančyny, jak takuju, kali jana padnosić ruku da pacałavańnia, a mužčyna zryvaje jaje i adbyvaje samym tolki rukapažaćciem. — Dy treba ŭreščie viedać, što całavańnie ruk žančynie jość zvyčajem... polskim: Uschod, a tym bolš — Zachod znaje zvyčaj całavańnia ruki vielmi abmiežavanym, a ŭ praktycy —amal susiom skasavanym. Pa hetym zvyčai siahońnia astałasia na Zachodzie tolki pamiatka słoŭnaj formy „całuju ručki!“, što samo praz siabie tam užo ničoha bolš nia značyć i ni da čoha nie zabaviazyvaje.

Pacałunki ŭ tvar u publičnych miajscoch naahuł niedapuścimyja. Na heta mohuć pazvolić sabie tolki asoby abo svajackija, abo sardečna znajomyja; dy i to tolki ŭ miejscy bolš-mienš zamknionym. Treba tolki viedać, što i pry hetym *nielƕa całavacca ŭ ƕuby*, a tolki ŭ ščoki.

Apošnim časam zahranicaj idzie silny ruch u hetym kirunku jašče dalej: ahraničvajecca nia tolki całavańnie, ale navat padavańnie ruki. Hetak naprykład fašystaŭskaj Italii sapraŭdy možna pazajzdravać jejnaj reformy, jakoj zamiest padavańnia ruki — uviedziena samaje tolki *padniaćcie pravaj ruki na vyšyniu ƕałavy, z adviernienym upierad dałaniom.*

*Znajomleńnie* jość kaniešnym, kali dźvie ci bolš čužych i nieznajomych sabie dahetul asob majuć na dalej mieć z saboj niešta supolnaje. Niepryzvaita pačynać daŭžejšuju navat hutarku z čałaviekam, katoraha nia znajem. — Samaje znajomleńnie najlepš adbyć, kali jość asoba treciaja, katoraja nas znajomić. Kali-ž takoj asoby niama, znajomimsia sami. Asoba, jakaja znajomić žančynu z mužčynam, nazyvaje pa imieńni i tytułu pierš mužčynu, a paśla žančynu. Toje samaje pry

znajomleńni asoby małodšaj z staršaj: pierš nazyvajecca asoba małodšaja, a paśla staršaja. Kali pradstaŭlajecca adna ci dźvie-try asoby całamu (bolšamu) tavarystvu, nazyvajecca spačatku asoba pradstaŭlanaja, a paśla ŭsie prysutnyja žančyny i paśla mužčyny. Vymaŭlańnie proźviščaŭ pry biespasiarednym i pasiarednym znajomleńni musić być vyraznym i hołasnym, a nia niejkim saromlivym marmatańniem pad nos. Adnosicca heta i da žančyn.

Poŭnyja zvaroty pry znajomleńni mohuć być choć-by hetakija: zvaročvajučysia da žančyny, abo da staršaj asoby, ci da šyrejšaha tavarystva, havorycca: *„pazvolcie pradstavić Vam pana* (hramadzianina, kalehu i h. d.) *N N*... i tut-ža vyhavaryvajecca u nazoŭnym skłonie imia tej-ža asoby staršaj, ci žančyny, katoraj majem niekaha pradstavić: *Pan Y. Z (pani S. S.)*“. *V. S.*

# Pavarot „Lavonichi“.

Pad takim nazovam polskaja hazeta „Słowo“ 17.IV.32 h. nadrukavała artykulik, katory hetta z-bolšaha ŭ pierakładzie pieradrukoŭvujem.

„Ja chacieŭ-by źviarnuć uvahu — piša aŭtor — našaha hramadzianstva na adnu notu, redka ŭ nas čutuju, što adnak pavinna być bliskaja našamu sercu — na notu našaha narodnaha skoku „Lavonicha“. Jak skok typova „mužycki“, značycca kompromitujučy, zbajkatavali jaje sialanie i zusim jaje zabylisia. Vycisnuli jaje inšyja skoki, mieniej „mužyckija“, jak polka, kadryla, kamarynskaja, lezhinka (dva apošnija sałdackaha pachodžańnia, pierad vajnoju davoli lubimyja). Adzin tolki hod tamu pačuŭ ja ŭpiaršyniu „Lavonichu“, spoŭnienuju amatarskim arkiestram i byŭ tady zachopleny (nia skokam, ale muzykaju, bo skok byŭ u tym vypaŭnieńniu niacikavy). Niadaŭna jznoŭ ja pačuŭ „Lavonichu“, hetym razam pieraz radyjo — z Miensku, u daskanalnaj kompozycyi i zachapiła jana mianie jašče bolej. Niahledziačy na abureńnie šmat kaho, ja moh-by skazać, što „Lavonicha“ varta bolej za ŭsie zbanalizavanyja krakaviaki i roznyja pseŭda-narodnyja „idzie Maciek bez wieś“ (viedama z karčmy abo ŭ karčmu, što varšaŭskich chłapamanaŭ zachaplaje). Škada, što „Lavonichu“ redka možna čuć, a pieraz radyjo tolki z Miensku da nas dachodzić. Ja radziŭby ŭsim muzykam i dyryhientam (kiraŭnikom arkiestry) z Vilni, Lidy, Navahradka, Baranavič, Niaśviža, Słonima i ich vakolicaŭ, kab źviarnuli ŭvahu na hetuju charošuju skočnuju notu, u katoraj hetulki žyćcia j viasiołaści, što trudna było spadziavacca ad našych sialan, a praŭdziviej — ad ichnych pryhonnych prodkaŭ, što hety skok stvaryli. Z kožnym razam,

kali ŭ Vilni, abo dzie ŭ inšym miescy muzyka hraje pa čarzie mazura, oberka, krakaviaka, kujaviaka, jak heta nia raz byvaje, varta-b kryknuć: „a dzie našaja Lavonicha?“ I da kiraŭnikoŭ vilenskaha radyja chacieŭ-by ja źviarnucca z hetym pytańniem. „Lavonicha“, vyhnanaja svaimi najbližšymi, pa doŭhim niabyćci viarnułasia. Nia treba ad jaje advaročvacca. Niachaj-by ŭvajšła ŭ naš repertuar, bo nia horšaja jana za šmat tamaka prysabiečanych i z našaje vuziejšaje baćkaŭščyny pachodzie. *M. Bernovič.*“

AD REDAKCYI. My pieradrukavali vyšejpryviedzieny artykuł z najbolej niepryjaznaj biełarusam polska-abšarnickaj hazety. Panoŭ z „Słowa“ nichto nia moža padazravać u lubaści da biełaruščyny. Naadvarot, jany ŭsiudy starajucca aśmiajać naša rodnaje i škodzić našaj spravie. Kali navat takija ludzi lubiać biełaruskija pieśni i skoki dy prysvojvajuć(!) ich, dyk sapraŭdy našyja pieśni i skoki nadta charošyja i varty jašče bolšaj pachvały. Jak-ža treba ich lubić, zachoŭvyvać i pašyrać nam, śviedamym biełarusam, katorym Biełaruś jość nia „vuziejšaj“, ale adzinaj i darahoj Baćkaŭščynaj?!!

## Літэратурны аддзел.

### *ХРЫСТОС УСКРОС!*

Хрыстос Ускрос! гамоніць поле.
Хрыстос Ускрос! шумяць гаі,
Хрыстос Ускрос! — і шлях да волі
Нам паказаў Хрыстос ў далі.
Хрыстос Ускрос! пяюць ўсе птушкі
У Дзень Вялікі на зары.
І жыцьця Слова, Бога служкі,
Нясуць ўва ўсе канцы зямлі!
Хрыстос Ускрос! пачуйце людзі
Сяньня, сяньня Хрыстос Ускрос!
Няволі царства ўжо ня будзе,
Вялікі Сьвет прыйшоў з нябёс!
Ён кліча ўсіх да працы згоднай,
Да брацкай вечнае любві!..
О, людзі, ўдумайцесь сягоньня,
К чаму дасюль шляхі вялі?
Хрыстос Ускрос! і з гэтым словам
Забудзьце прошлае на век!
Будзьце людзьмі! і дружным хорам
Гукнеце Гымн сьвяты: Хрыстос! Ускрос!

*М. Нядоля*

## З вясьняных напеваў.

*
* *

Двацчаты век — развой і веда.
З чаго так сьмешна—думны [людзі:
Адзін жыве—ўладар сусьвету,
Другому голад сушыць грудзі.

Худыя рукі, твар васковы
І сонцам высмажаны вусны.
Спытайся хто?—мужык вясковы
Што корміць тых — сытых і [тлустых.

*
* *

Вёска уся убраная
У красачную бель.
Зноў вясна жаданая
Зноў у сэрцы хмель.

Вечарам вясёлая
Мроя не адна,
Выцьвіціць узорамі
З песьні салаўя.

Зоры полымністыя
Шэпчуць краскам сказ:
Пахіліўся лісьцямі
Над парканам вяз.

. . . . . . . . . . . . .

Вёска зноў убраная
У зелень і вясну
Песьню ўжо пяяную
З радасьцю п'яю.

*
* *

У вяснавым бездарожжы
Памочаны прастор.
Таёмна і прыгожа
Вяду я з ветрам спор.

Я спору з' ім аб сонцу, —
Пра майскую лазур,
А ён адно бяз канца —
— Я — сын стыйй і бур.

І слухаюць нас зоры
Над гацьцю вузкіх ніў
І чуецца бадзёры
Вясновых сіл прыліў.

І гэты спор прадвесьні
Жывіць маю душу
І тчэ узор у песьні
Пра радасьць і вясну.

*М. Машара.*

## AD ASTRA.

Ноч у небе зоры сее
Ў залацістым рэшаце —
І далёкіх зор надзеяй
Хоча нас пацешыці.

Пэрлы-росы рассыпае
На лугі багатыя —
Зорка-сваця вясьняная
Нас з табою сватае.

Вецярок—дзяцюк зайздросны
Ўсьцяж тры грошы совае:
Летась луг быў болей росны,
Ночка больш маёвая...

А за возерам з прасоньня
Вёска штосьці грозіцца...
Там, дзе месяц цягне тоні
І русалкі возяцца.

Шлях да зораў працярэбім
І зазвоняць молаты:
Зоры — пэрлы ў родным небе
— На хлеб будуць змолаты!

І агні у паднябесьсі
Мы распалім новыя —
Сонца новае павесім
Над страхой вясковаю.

— — — — — — —

Нехта кліча — нібы сьніцца...
Голас долі братняе —
І садочак — і сьвятліца —
І агнішча хатняе.

Пройдзе годзік... Прад ідэяй
Цяжка вы сагрэшаце —
Будзе неба дождждык сеяць
У парваным рэшаце.

*Л. С*

## КВЕТКІ.

Пышна вясною
Зацьвілі кветкі,
Ўбралі сабою
Лугі, палеткі.

Дзеці зрываюць
Плятуць вяночак;
Пчолкі зьбіраюць
Сабе мядочак.

Кветкі ласкаюць
Выглядам чыстым,
Ды абліваюць
Пахам душыстым.

Моладзь іх любіць
Тыкаць пад носік;
Толькі-ж іх губіць
Начны марозік.

*А. Жук.*

* * *

Гмахі плывуць у блакітныя змрокі,
Быццам у прыстань на ноч караблі.
Рушыліся цені вячорныя ў скокі.
Зоркі да дахаў з нябёс падплылі...

Вечар мястовы.
Здалёк самаходы
Шпарка прыбеглі спачыць ля вітрын.
Гоман і шум — пераклічны, нязгодны—
Моўчкі глытае імглістая сінь.

Хутка пальюцца ў шчарнеўшыя высі
Тысячы крыкаў і вогненных зьмей...
Вечар пяшчотны, кароткі... — туліся
Да зачарованых нашых вачэй.

*Хв. Ільяшэвіч.*

## СЬМЕРЦЬ ІВАНКА.

### IV.

То ня красачкі хіліліс, не траву касілі.
Колькі людзі тут на полі жыцьця наглумілі,
Колькі сілы тут прапала крэпкай і здаровай,
Колькі сіротаў зрадзілась, і калек і ўдоваў!?
Дзе-ж падзеліс маткі,сёстры? Ды па тых,што гінуць
На ўвесь сьвет, як ёсьць шырокі плачу не падымуць,
Каб згасіў вайны агонь пажару сьветавога,
Каб той плач, як ў Віфліеме стаў чутны у Бога.
Хто яе кіруе? Хто направіў ў шлях крыві дарэмнай,
Хто-ж збіраць пачне пасеў з палёў вайны нікчэмнай!?
Дык нашто-ж народ спакойны гневам затраўляці,
Ці-ж ляпей як ён загіне, чым працуе ў хаце?
Чым-жа ён вам правініўся, чым — скажэце ўласьне,
Не зграў твайго загону, сенажаць ня спасьвіў,
У хаце жонку, дзеці кінуў, воз і плуг на полі,
Сам пайшоў на сьмерць адкрыту процiў ўласнай волі,
Замест плуга ўзяў ён ў рукі порах, сталь, патроны,
Палівае братняй кроўю родныя загоны.
Жменя гордых верхаводаў, дзеля думак гордых,
Раскялзала ўсю Эўропу, як сабак надворных.

(д. б.)

*Я. Вількоўскі.*

# Вясна.

Усё зеленее, жыве і сьпявае: гэта пара адраджэньня, вясна жаданая. Неба сіняе, як мора, глыбіня бязмежная, колерам лазурным над зямлёй расцягнулася.

Ах ты неба, неба, просінь ясная, як-жа многа ў табе хараства чароўнага, колькі родзіш ты залатых лятункаў, ты раздольле душы паэтычнай, ты заклятае царства багатырскага сну.

Ох люблю я вясьнянае неба, калі ў нейкай задуме зямля, свой прыцішыўшы дух, пазірае ў бязмежную глыб і здаецца выцягвае рукі і просіць лазурную даль: вазьмі, ахіні мяне, неба раздольнае, у Твой бліскуча-нябескі дыван і налажы на мой твар Твой вясьняны маестатычны спакой. А неба, як чулая матка дзіцяці малому пяе сваю песьню і песьціць усьмехам зямлю маладую.

З вялікай пацехі шырокія нівы ўбіраюцца ў зелень і міла сьмяюцца; далей, ручаёк паміж гор заводзіць бурлівую песьню, а там у далі краявіду асеўся, разросься стары бацька-лес: ён басам у песьні ўтаруе і к небу ўжо шле падбор галасоў вясьнянага гымну. — А там не ў заметку, сярод дрэў адвечных, на палянках блішчаць сваей красатою малыя лялейкі і ясныя браткі і белыя пралескі — дзеці вясны. Глядзяць яны толькі ў немай таёмнасьці на яснае неба ў бяздонную глыб і толькі здаецца не хапае ім мовы, каб нас навучылі, як трэба кахаць: кахаць гэта неба вясной беларускай, кахаць свой радзімы дзядоўскі куток, кахаць адраджэньне ня толькі прыроды, але і сваей собскай душы.

*Уладзімер Берняковіч.*

# Jak być zdarovym. (2)

(*Panadvorak, dzialnik, studnia*).

Razhledziŭšy, jak maje być u chacie, źvierniem uvahu na toje, jak maje być u nas kala chaty, z-vonku. Tut budzie: panadvorak, dzialnik z chlavami i studnia.

Panadvorak pavinien być vyčyščany i suchi. Bo jak-ža my zmožam utrymać čystatu ŭ chacie, kali skroś kala chaty i pierad samym paroham ci hankam budzie stajać hraź abo łužyna vady? Hraź-ža heta za nahami ŭnosicca ŭ chatu i ŭsio bałocicca. Pry hetym, na panadvorku jość nia raz duža mnoha usialakich zaraznych adpadkaŭ, bo tut chodziać i kury, i husi, i skacina, i čałaviek i ŭsiakaja ŭsiačyna. Najhorš heta byvaje tady, kali takaja „dobraja“ haspadynia lanicca vynieści šumu ŭ dzialnik (śmietnik), dzie jaje ssypać treba ŭ adzin kutočak, a tolki vykinie cieraz paroh u hraź. U takoj šumie jość zaŭsiody usialakija ludzkija adpadki, dla samaha čałavieka najstrašniejšyja. I ci dzivicca-ž tady treba, kali dzieci hetaha do-

mu, ülezšy ü hetu hraź, a nia raz i ü hubu jaje üziaŭšy, viernucca ü chatu i zachvarejuć: tysiačy bakteryjaŭ z hrazi pierajšli ü arhanizm. Dziela hetaha panadvorak treba vysypać žviram, abo vybrukavać, padčyščać i nie zasypać šumoj.

Čystata ü chacie zaležyć taksama ad dzialnika i chlavoŭ. Treba staracca, kab u ich było sucha. Budzie tady skacina zdarovaja i nohi tak nia buduć brudzicca. Dobra było-b, kab pasiarod dzialnika była zroblena cemantovaja hnajnca (jama), kudy ściakaŭ-by pływučy hnoj. Dało-b heta vialikuju karyść u haspadarcy i pamahała-b utrymoŭvać čystatu i zdaroŭje ludziej i skaciny.

U kožnaj haspadarcy dzieś za chlavami pavinien być ščylny, z dobrymi dźviarami vychodak. Patrebna heta dla zachavańnia čystaty, etyki i nia raz — dla üścieražeńnia ad usialakich zarazaŭ. Hnoj čałaviečy ŭ vychodku treba zasypać čas ad času, asabliva ületku, vapnaj, suchim torfam ci piłavimi i vyvazić daloka na pole.—Nielha tut raśpisacca abšyrniej, ale viercie pavažanyja, što üsio, što tut robicie, zrobicie dla svajho dabra. Pry hetym nia pryčepicca da vas palicyjant, i nia budzie vas strašyć roznymi pratakołami.

Trecim z vonkavych padstavovych varunkaŭ zdaroŭja jość dabyvańnie vady — studnia. Studnia pavinna daloka stajać ad pamieškalnych budynkaŭ, a asabliva — ad chlavoŭ, i kryšku vyšej, tak, kab ad studni vada ściakała da chlavoŭ, a nie naadvarot. U studniu nia možna ničoha kidać, mačyć adziežu i chuścio, a tak-ža brać kožnamu svaim viadrom vadu. Bo chto viedaje, z čym i dzie było čyjo viadro? I ci nia prynios ty ŭ svaim viadre zarazu i nie razsiavaješ jaje üva üsiej vadzie. Viadro pavinna być pry žoravie zaŭsiody adno, pry hetym jano nia musić datykacca ziamli. Studniu treba zakryvać ščylna i dobra było-b, kab u jej była — zamiest žorava — pompa. Stud. med. *J. M.*

# Z ziamielnych nietraŭ.

Naša ziamla, jak viedama, maje formu kruhłavataha niaroŭnaha jajka, daŭžejšaja voś katoraha mieryć 12.756 kilometraŭ, a papiarečnaja (karaciejšaja) — 12.714 kilometraŭ. Prad šmat i šmat hadami üsia ziamielnaja kula (jajko) nia była takoj ćviordaj i zimnoj, jak jaje bačym siahońnia; u dalokija prošłyja časy, jak pakazvaje navuka, sučasnaja naša ziamla była kružačymsia kłubam nieprahladnaj pary. Z časam heta para pačała astyvać. Najpierš astyvaŭ vonkavy płast pary i z hetaha ütvaryłasia kara, abo skarupa ziamli. Astyvańnie ziamli z časam išło dalej i ad hetaha ziamnaja kara üściaž hrubieła. Da siahońnia jšče heta astyvańnie ziamli üsiaredzinie nia končana. Dokazam hetaha jość choć-by toje, što pry

spuskańni ŭ hłybokija jamy adčuvajem bolšaje ciapło, čym naviersie. Jašče lepšy dokaz taho, što nutro ziamli dahetul jość vielmi haračym, dajuć nam vulkaničnyja vybuchi, padčas katorych niastrymanym fantanam — byccam krynicaj—z ziamielnych nietraŭ bjeć uvierch r a s p ł a ŭ l e n a j a ad haračyni masa roznych minerałaŭ i metałaŭ, z jakich składajecca całaja ziamla.

Adnym z najbolš pašyranych składnikaŭ astyŭšaj ziamnoj k a r y jość

*Piasok.*

Piasok, jak viedama, składajecca z maleńkich, choć niaroŭnych, napałovu prazrystych ziarniatak. Hetyja ziarniatki — heta małyja častki minerału, jaki nazyvajecca *kvarcam*.

Kvarcovy piasok tak ćviordy, što kali napr. pasypać jaho na škło i paciorci niečym ćviordym, dyk piaščanyja ziarniatki parysujuć škło.

Čysty piasok usypany ŭ šklanku z vadoj nie pavinien na doŭha zamucić hetaj vady i chutka musić apaści na dno. Hetki tolki čysty piasok pryhodny da rableńnia mularskaj zapravy z vapnaj. — Piasok u dva z pałovaj razy ciažejšy za vadu i tamu jon chutka apadaje ŭ vadzie i tamu voz z piaskom daloka ciažejšy, čymsia voz z vadoj.

Piasok vielmi lohka prapuskaje vadu. Kali ŭziać napr. lejku, ułažyć u jaje kusočak vaty, na jaje nasypać piasku i paśla na heta lić vadu, dyk usia vada z lejki chutka prasočycca. Heta ŭłaścivaść piasku vielmi niekarysna dajecca ŭ znaki na hruntoch, dzie šmat piasku: hetkija hrunty niazdolny zatrymać u sabie vohkaści i tamu jany kiepska rodziać.

U pryrodzie spatykajecca piasok raz u hrubšych, raz u miałčejšych płastoch. Miernaja kolkaść jaho ŭ aromych hruntoch — navat pažadana, ale prazmiernaja — škodnaja, a navat niebiaśpiečnaja. Uradžajnaja hleba maje ŭ sabie adnu čaść piasku na dźvie-try čaści hliny. Sypučyja piaski nia tolki sami ničoha nia rodziać, ale zdarajecca tak, što z vietram, abo z vadoj zasypajuć uradžajnaje pole i zamožnych ludziej robiać žabrakami. Zhetul navuka, kab da syta-hliniastych hruntoŭ dadavać bolš piasku, a sypučyja piaski — zasadžyvać adpaviednymi raścinami i drevami: łubin, morva, vierba i h. d.

Kolkaść piasku i hliny ŭ hlebie možna vyrachavać vielmi prostym dośledam. Na heta patrebny tolki vuski, vysoki šklany słoik. Biarecca žmienia tej ziamli, skład katoraj chočam daviedacca, raspuskajecca, d o b r a raźmiešyvajecca z vadoj (n a r e d k a!), ulivajecca ŭ pryhatavany słoj i pakidajecca ŭ spakoi, kab ustajałasa. Ziarniaty piasku, jak bujniejšyja i ciažejšyja. apadajuć na dno chutčej; a na piaščany płast p a v o l i ŭkładajecca płast hliny. Raŭnujučy vyšyniu (hrubi-

niu) piaščanaha i hliniänaha płastoŭ, vyrachoŭvujem, kolki ŭ danaj hlebie piasku i kolki hliny.

Užyvalnaść piasku davoli šyrokaja. Apračа mularstva vielmi šmat, ale tolki dobraha piasku spatrabujuć škanyja huty dla vyrabu ŭsialakich sartoŭ škła. Na heta miašajuć piasok z vapnaj i sodaj (abo potašam) i varać u ahnieadpornych katłoch tak doŭha, pakul z usypanaj miešaniny piasku, vapny i sody nie paŭstanie husta-ciakučaja, prazrystaja, chutka astyvajučaja masa (kaša). — Rabotnik paśla hetaha mačaje u hetu masu žaleznuju trubku i vydmuchivaje (jak z myła) šklanyja pasudziny roznaj formy i vialikaści. *V. V.*

# Хроніка.

### З беларускага жыцьця.

Астаткі беларускага школьніцтва ў небясьпецы. Валадары нашага краю давялі да таго, што з прыгожага расквітаючага букету беларускага школьніцтва, асталося пара згрызеных голых былінак. І вось-жа апошнім часам і гэтым былінкам пагражае небясьпека.

Паводле апошніх вестак, быццам мае быць зліквідавана Беларуская Наваградзкая Гімназія, навуковы ровень якой, паводле апошняе заявы польскага школьнага візытатара з куратарыі, ёсьць добры і нават вышэйшы ад навуковага ровеня польскае гімназіі ў Наваградку.

— Сумныя весткі таксама ходзяць і аб лёсе Віленскай Беларускай Гімназіі, існаваньне якой быццам таксама ў небясьпецы.

— З канцом сёлетняга школьнага году, згодна з пастановай польскіх школьных уладаў, будзе зліквідавана Дзяржаўная Вучыцельская (польска-беларуская) Сэмінарыя ў Вільні.

Вось якога лёсу дачакаліся астаткі беларускага школьніцтва, а разам і беларуская моладзь, якая міма найвялікшай ахвоты, ня можа вырвацца з цемры. Мейма аднак надзею, што гэткае палажэньне доўга непатрывае і, што надыдуць лепшыя часы, калі зноў гэны букет усё-ж-дыкі закрасуе...

Гадавы сход Рады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. 24.IV с. г. адбыўся агульны гадавы сход Рады Бел. Інстытуту Г. і К. З справаздачы Цэнтр. Ўраду БІГіК даведваемся, што Інстытут мае 52 гурткі па вёсках у Зах. Беларусі, да якіх належа больш

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

700 сяброў. Інстытут мае 36 бібліятэчак на вёсках, з якіх ёсьць нават і такія, што маюць па больш як 800 томаў. За 1931 год было прачытана Цэтраляй 27 лекцыяў і мясцовымі сіламі зладжана больш як 25 прадстаўленьняў.

У новы Ўрад БІГіК на 1932 год выбраны: старшыня— кс. В. Гадлеўскі, віцэ-старшыні: — інж. Ад. Клімовіч і пасол Ф. Ярэміч, скарбнік — сьвящч. А. Коўш, сэкрэтар — студ. М. Пяцюкевіч, сябры ўраду — др. Б. Туронак, рэд. Я. Пазьняк і студ. Малецкі.

Зачынілі гурток БІГіК. Віленскі ваявода зачыніў Гурток БІГіК ў Малой-Боркаўшчыне, Маладэчанскага пав., бо паводле цьверджаньня Маладачанскага старасты, дзейнасьць гэтага гуртка пагражае „бэзпечэньству публічнэму".

Новы гурток БІГіК нядаўна заснаваўся ў в. Харкі, Пастаўскага пав.; жадаемо яму плоднае працы на ніве беларускай культуры.

Агульны Сход Т-ва Беларускай Школы, мае адбыцца 13 траўня с. г. у Вільні.

Матуральныя экзамены. 17-га траўня с. г. ў Віленскай Беларускай Гімназіі пачнуцца матуральныя экзамены, да якіх прыступае 18 чалавек — вучняў VIII клясы, з гэтага 7 дзяўчат і 11 хлапцоў. Да гэтых-жа экзаменаў прыступае некалькі чалавек экстэрністаў.

З выдавецкае нівы. Апошнім часам у Вільні вышлі з друку і паступілі ў прадажу наступныя беларускія кніжкі: 1. „Ziemlarobskaja čytanka" частка 1-я інж. Ад. Клімовіча — 148 бачын, выданьне „Беларускай Крыніцы", цана кніжкі 1 зл.; 2. зборнік вершаў Хв. Ільяшэвіча п.н. „Зорным Шляхам" — 64 бачыны — выданьне Беларускага Выдавецкага Т-ва, цана кніжкі 1 злот і 3. дадатак да каталёгу кнігарні „Пагоня". Выпісаць гэтыя, а так-жа і іншыя кніжкі можна з кнігарні „Пагоня", Вільня — Завальная вул. № 6—10.

Беларускае Культурнае Т-ва. Нядаўна ў Коўне ў Літве заснавалася Беларускае Культурнае Таварыства: жадаемо пасьпеху ў працы.

# Usiačyna.

Aparat jaki moža ŭsio niščyć za 1000 klm. Amerykanski inžynier elektrotechnik Barlioŭ wynašoŭ novy aparat, pry pomačy jakoha možna budzie niščyć ahniom usialakija pradmiety, a tak ža vajennyja karabli, wojska i im. p. u voddali navat 1000 klm. Da absłuhi aparatu treba tolki niekalkich asob.

Novyja hydroplany. U Niamieččynie pabudavali novy hydraplan z matoram 750 konskich sił. Hydraplan hety moža pralacieć 275 klm. u hadzinu.

Novaja savieckaja ekspedycja na poŭnač. Viedamy saviecki daśledčyk paŭnočnych krain praf. Samojłavič arhanizuje novuju palarnuju ekspedycyju na ledakole „Krasin," z zadańniem znajści najkaraciejšuju darohu z Eŭropy da Amerki praz paŭnočny polus.

Najbolšy ŭniversytet. Najbolšym chiba na śviecie ŭniversytetam jość universytet ŭ Kolumbii kala Nju-Jorku, ŭ jakim vučycca 33.000 studentaŭ.

Novy palot u stratosferu. Viedamy małady vučony Kipfer z Bruksełli (Belhija), jaki braŭ udzieł u palocie ŭ stratosferu letaś z praf. Piekaram, sioleta letam uznoŭ vybirajecca lacieć u pazachmarnuju vyšyniu

Jubilej zakładčyka skaŭtaŭ. Pałkoŭnik Baden Povell, zakładčyk skaŭtaŭ (vychavaŭčaj arhanizacyi moładzi), a ŭ sučasny mament usieśvietny kiraŭnik hetaj arhanizacyi, niadaŭna śviatkavaŭ 75-cilećcie svajho žyćcia. Sioleta Baden Povell maje adviedać skaŭtaŭ u Polščy, Litvie, Łatvii i Estonii.

850 miljonaŭ analfabetaŭ. Pavodle amerykanskaj statystyki, na całym śviecie jość 62 proc. ludziej, h. zn. 850 miljonaŭ, ličačych bolš, jak 10 hadoŭ žyćcia, što nia ŭmiejuć ani čytać, ani pisać.

Lod hrubinioj 3000 metraŭ. Na paŭnočnym polusie kala Grenlandyi, lod maje ŭ niekatorych miajscoch da 3000 metraŭ (try kilometry) hrubini.

408,7 klm. na hadzinu. Najbolšuju skoraść na samachodzie asiahnuŭ sioleta ŭ m-cy lutym Malcolm Campbell u Dayton Beach na Florydzie, jaki prajechaŭ 408,7 klm. u hadzinu.

# Da nas pišuć.

## PROČ HAREŁKU!

v. **Marcinkancy**, Brasłaŭskaha pav. Daviałosia mnie być na katalickija zapusty ŭ v. Marcinkancach na viečarynie. Voś-ža na vialiki žal nie pabačyŭ ja tam ničoha dobraha. Moładź tamašniaja, za šmat vypiŭšy harelicy, nie zmahła zabavicca pa ludzku.

Mnie zdajecca, što ciažkoje sučasnaje žyćcio pavinna ŭžo nas pryviaści da apamiatańnia. I dziela taho, zamiest vydavać hrošy na škodnuju dla našaha zdaroŭja harełku, vypišma lepš dobryja knižki i hazety. Vaźmiemasia za kulturnuju rabotu, zakińma ŭ niapamiać usie svarki i bojki, a tady ŭ nas i žyćcio viesialej i ščaśliviej papłyvie. **I-t. P-n.**

# Naša Pošta.

Uł. S—skamu. Za prysłanyja materjały dziakujem, vykarystajem' prośbu spoŭnim.

Alchimoviču Zenonu. Za syna Vy nie adkazvajecie i sekvestratar nia maje prava ad Was ničoha zabrać. Apaviadańnie „Strašnaje pabojišča" słabaje i da druku nie padchodzić.

A. Žuku. Za prysłanaje dziakujem, jak bačycie častkova karystajem.

D. K—kamu. Za prysłanaje dziakujem, prośbu spaŭniajem, prosim štoś napisać da druku.

J. Z—vieŭ „Šlach Moładzi" vysyłajem i čakajem padpiski.

H. B—vinionku. Vieršy słabyja, pišecie lepš prozaj.